# АД НАС ЗАЛЕЖЫЦЬ!

Праз колькі дзён пасьля таго, як Генэральны Камісар Беларусі генэрал-лейтэнант паліцыі фон Готтбэрг на урачыстым паседжаньні прадстаўнікоў беларускага народу 21 сьнежня 1943 г. абвесьціў утварэньне Беларускае Цэнтральнае Рады, прэзыдэнт Рады сп. Радаслаў Астроўскі зьвярнуўся праз радыё і друк да беларускага народу з адмысловай адозвай. Заклікаючы беларускі народ да згуртаваньня усіх сілаў да творчае працы для краю і да змаганьня са зьлейшым ворагам нашае Бацькаўшчыны — бальшавіцкім імпэрыялізмам, сп. Астроўскі падкрэсьліваў, што «у гэтым вялікім мамэньце ніхто не павінен стаяць збоку, бо інакш ён згіне сам і загубіць іншых». З поўнай сьведамасьцяй адказнасьці гістарычнага мамэнта у жыцьці нашае Бацькаўшчыны ён пісаў: «Перажываныя намі вялікія падзеі вырашаць і нашую будучыню. Ад нас залежыць, каб яна была шчасьлівай і каб нашая Бацькаўшчына, пасьля векавой нядолі, сталася ізноў вольнаю.»

Цяпер, калі беларускі народ мае сваё праўнапрызнанае прадстаўніцтва у форме Беларускае Цэнтральнае Рады, гэтыя словы набываюць значаньне асаблівае вагі. Перад беларусамі адчыняюцца шырокія магчымасьці культурнага будаўніцтва, новыя пэрспэктывы творчае працы на адраджэньне свайго, разбуранага бальшавікамі, краю. Беларуская Цэнтральная Рада складаецца з лепшых сыноў народу, пакліканых ажыцьцёвіць ідэю самакіраўніцтва у гэткіх важных для нас галінах, як культура, школьніцтва, апека. Гэта якраз тыя галіны нашага нацыянальнага жыцьця, якія цяпер набываюць асаблівае значаньне у нашым адраджэньні. Праз вольнае разьвіцьцё свае культуры — мастацтва, тэатру, літаратуры, друку, выданьне кніжок, праз шырокае разьвіцьцё нацыянальнага школьніцтва, праз чыстабеларускае выхаваньне нашае моладзі у духу разуменьня і абароны народных інтарэсаў, праз шырэйшае разбудаваньне установаў народнае самапомачы, грамадзкае апекі над усімі бядотамі нашага народу і праз узаемадапамогу, мы вырабім з нашага народу сьведамую сваіх запраўдных інтарэсаў нацыю. Беларуская Цэнтральная Рада праз існуючыя пры ёй гэткія інстытуцыі, як Беларускае Культурнае Згуртаваньне, Навуковае таварыства, тэатар, аддзелы культуры дае рэальныя магчымасьці шырокага культурнага творства ува усіх галінах беларускай культуры і забясьпечвае беларусам тут поўную самастойнасьць. Гэтыя галіны цалкам перайшлі у беларускія рукі і цяпер ад нас залежыць, як мы гэта скарыстаем. Нямецкае кіраўніцтва вуснамі Генэральнага Камісара генэрала фон Готтбэрга на урачыстым абвешчаньні Б. Ц. Рады 21. XII. 43 г. заклікала скарыстаць гэтую магчымасьць адбудовы нашае Бацькаўшчыны. Генэральны Камісар заклікаў беларусаў праз удзел у змаганьні з бальшавізмам заваяваць нашаму народу належнае яму мейсца сярод народаў Эўропы. Ён падкрэсьліваў пры гэтым, што кажны народ атрымае тое мейсца, на якое ён заслужыцца і займе яго праз свае высілкі, сілы і чыннасьць, стараннасьць і ахвярнасьць. У такім разе агульная перамога над цёмнымі сіламі будзе і перамогай Беларусі. І цяпер сьвяты абавязак кажнага беларуса — адгукнуцца на гэтыя прамяністыя заклікі і з усім запалам маладога народу аддацца гэтай працы. Цяпер не павінна быць ніводнага беларуса, які стаяў бы збоку ад гэтае працы.

Прэзыдэнт Цэнтральнай Беларускай Рады сп. Астроўскі на І-ым урачыстым паседжаньні Рады 22 студня 1944 г. шырака выклаў праграму дзейнасьці Рады. Ува усіх пытаньнях, ня толькі тых, што беспасярэдня паводля статуту Рады складаюць абсяг яе дзейнасьці, але і у гаспадарскіх, адміністрацыйных, сельска-гаспадарскіх і іншых, Б. Ц. Р., маючы права падаваць свае парады і думкі нямецкім уладам, будзе імкнуцца да поўнага зьліквідаваньня разбуральных насьледкаў бальшавізму, да адбудовы і росквіту Беларускага краю. Вакол пачэсных задачаў выкананьня абвешчанае Прэзыдэнтам Рады праграмы трэба згуртавацца усім пазытыўным беларускім сілам і супольнай зараднасьцяй прычыніцца хутчэйшаму запанаваньню у Беларускім краі міру, супакою, працы, культуры і народнага дабрабыту. На дапамогу і ахову нашай адбудоўнай працы прыдуць дакляраваныя Генэральным Камісарам на акце абвешчаньня Рады апорныя узброеныя пункты у вёсках, якія будуць створаныя ува усім нашым краі. Тысячы маладых беларусаў пойдуць множыць шэрагі беларускіх паліцыйных фармацыяў і Беларускае самааховы, якія і дагэтуль гераічна змагаліся з бандытамі і сваёй крывёю ужо неаднакраць замацавалі вернасьць нямецка-беларускай прыязьні. «Кажная беларуская вёска мусіць стацца нездабывальнай крэпасьцяй для жыда-бальшавікоў, кажны беларус і беларуска павінны узяць дзейны удзел у нішчэньні бальшавіцкіх логаваў у нашых лясох. Калі мы згодна, арганізавана і аддана возьмемся за гэта, дык дні бандытаў у нашым краі будуць палічаныя.» (З адозвы прэзыдэнта БЦР.)

Беларускі народ ахвотна адгукнуўся на заклікі прэзыдэнта БЦР сп. Астроўскага і давёў гэта шэрагам мітынгаў, сходаў і урачыстасьцяў, якія пракаціліся шырокай хваляй па усёй Беларусі пасьля абвешчаньня Беларускай Цэнтральнай Рады. Народ дадатна паставіўся да гэтае гістарычнае падзеі у ягоным жыцьці. Ён усюды вітаў Раду і сваймі пастановамі дакляраваў супрацоўніцтва, адданасьць і згоду выконваць усе пастановы Беларускае Цэнтральнае Рады. На гэтых сходах народ яшчэ раз выказаў сваю нянавісьць да бальшавізму, сваю гатоўнасьць аддаць усе свае сілы на змаганьне з ім аж да поўнае перамогі. Народ лішні раз давёў, што ён гатовы даць тысячы сыноўзмагароў за Бацькаўшчыну, гатовых памерці для ейнага шчасьця, для красаваньня ейных буйных народных сілаў, нацыянальнае магутнасьці. Гэтым народ выявіў сваё адвечнае жаданьне бачыць сваю Бацькаўшчыну — Беларусь вольнай у сям'і іншых народаў. Да гэтай вольнасьці, да ажыцьцяўленьня сьвятых ідэалаў беларускае дзяржаўнасьці і павядзе свой народ Беларуская Цэнтральная Рада. З ёю наш народ выходзіць «шчыльнымі радамі на вольны родны свой прастор». Гэта — шлях у нашую заранiстую шчасьлівую прышласьць. Дзеля гэтага ня шкода ні сілаў, ні часу, ні працы.

Дык зробім-жа усё ад нас залежнае, каб хутчэй прыйсьці да нашых агульных нацыянальных беларускіх ідэалаў і здабыць шчасьце нашай Бацькаўшчыне — Беларусі!




### Склад Белар. Цэнтр. Рады

*На аснове арт. IV Статуту Беларускае Цэнтральнае Рады сп. Прэзыдэнт Р. Астроўскі запрапанаваў сп. Генэральнаму Камісару склад сяброў Рады, які і быў зацьверджаны Генэральным Камісарам. У выніку гэтага Беларуская Цэнтральная Рада уканстытуяваная у наступным складзе: Першы Віцэпрэзыдэнт Мікалай Шкелёнак, Другі Віцэпрэзыдэнт Юры Сабалеўскі, сябры Рады: Францішак Кушэль, Сямён Кандыбовіч, Паўла Сьвірыд, Вячаслаў Сэлях, Аўген Калубовіч (кіраўнік Беларускага Культурнага Згуртаваньня), Станіслаў Грынкевіч, Усевалад Родзька, Міхал Астроўскі, Мікалай Буляк, Пётра Орса, Сьцяпан Калядка і Сьцяпан Стаськевіч.*

### Дэклярацыя Белар. Цэнтр. Рады

*Беларуская прэса на сваіх балонках надрукавала Дэклярацыю Беларускае Цэнтральнае Рады, якая за асноўную мэту Рады ставіць «здабыцьце вольнасьці для нашае Бацькаўшчыны, да чаго ад стагодзьдзяў імкнецца беларускі народ». Б. Ц. Р. у першую чаргу усю сваю дзейнасьць будзе накіроўваць на змабілізаваньне усіх сілаў народу дзеля найхутчэйшага асягненьня перамогі над бальшавіцкай Масквой. Дэклярацыя падрабязна фармулюе праграму дзейнасьці Б. Ц. Р. над адбудовай беларускае нацыі і зруйнаванага краю.*

### Беларускі Музэй у Вільні у новым памешканьні

*Беларускі музэй імя Івана Луцкевіча у Вільні, які ад 1921 г. зьмяшчаўся у Базыльлянскіх Мурох пры Вострабрамскай № 9, ад 27 студня 1944 г. знаходзіцца у новым памешканьні — Вільня, вул. Сьв. Ганны, 4 (у будынку былой Акадэміі Мастацтваў).*

### Новыя падручнікі

*Беларускае Выдавецтва падручнікаў і літаратуры для моладзі у Менску выдала новыя падручнікі — зборнікі арытмэтычных задачаў і прыкладаў для I і II клясаў народнае школы. У гэтых падручніках разам у кажнай кніжцы зьмяшчаецца арытмэтыка і задачнік. Склалі падручнікі для I клясы З. Дабрынская і П. Шырынскі, а для другое клясы З. Дабрынская і М. Завусьцінскі. Абодвы падручнікі друкаваныя лацінкай. Прадаюцца падручнікі у Вільні праз прадстаўніка Выдавецтва сп. Мядоўскага (Вільня, Віленская вул. 7—5).*

---

*На вокладцы: Прэзыдэнт Беларускае Цэнтральнае Рады сп. Радаслаў Астроўскі.*

---

*Выдавецтва часапісу «Новы Шлях». Менск, вул. Рагнеды 2, тэл. 21300. Галоўны рэдактар У. Сядура.*

# З фото-камэрай



Парашутысты выскачыў з самалёту і спускаецца.



Паміж стромымі скаламі гораў на італьянскім фронце умацаваліся нямецкія баёвыя аддзелы, што з посьпехам адбіваюць наступ амэрыканскіх і ангельскіх войскаў.



У вольны час пасьля бітвы трэба упарадкаваць зброю, вопратку і бялізну. Пакуль бялізна сохне на сонцы, грэнадзёр заняты чысткаю свае зброі.



Татарскія экскурсанты перад бібліяграфічным інстытутам у Ляйпцыгу.



Татарскія экскурсанты у Нямеччыне. На здымку — удзельнікі татарскай дэлегацыі ля магілаў памёршых у палоне мусульманаў.

→

# ПЕРШАЕ ПАСЕДЖАНЬНЕ

У сыботу 22 студня 1944 г. у вялікай залі памешканьня Беларускай Цэнтральнай Рады адбылося гістарычнае Першае Урачыстае Паседжаньне Рады. Заля была упрыгожаная беларускімі бел-чырвона-белымі і нямецкімі сьцягамі, вялікімі палоткішчамі з прыгожымі узорамі беларускіх слуцкіх паясоў.

Сотні запрошаных гасьцей — лепшых прадстаўнікоў беларускага народу з розных установаў Беларусі і нямецкіх урадавых колаў — ушанавалі сваёй прысутнасьцяй гэты урачысты акт у жыцьці беларускага народу.



Прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады сп. Радаслаў Астроўскі выступае з праграмавай прамовай на Першым Урачыстым Паседжаньні Б. Ц. Р.

Перад паседжаньнем Рады ейныя сябры разам з вышэйшымі прадстаўнікамі нямецкіх урадавых і вайсковых колаў на чале з Генэральным Камісарам Беларусі генэралам фон Готтбэргам наведалі могілкі загінуўшых у змаганьні за Бацькаўшчыну беларускіх і нямецкіх жаўнераў і злажылі вянкі на магілах паўшых герояў. Гэтым была ушанаваная сумесна пралітая кроў у імя прыязьні і саюзу гэтых народаў. Роўна а 11 гадзіне усе сябры Беларускае Цэнтральнае Рады на чале з Прэзыдэнтам сп. Радаславам Астроўскім, разам з Генэральным Камісарам Беларусі генэралам фон Готтбэргам увайшлі у залю паседжаньня і занялі адпаведнае мейсца пры стале паседжаньня.

Злучаныя аркестры Менскага Беларускага Гарадзкога Тэатру і нямецкіх аддзелаў іграюць магутны і прыгожы музычны уступ.

Затым Прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады сп. Р. Астроўскі адчыняе Першае Урачыстае Паседжаньне Рады і перадае слова для прывітаньня Генэральнаму Камісару генэралу фон Готтбэргу. Генэральны Камісар вітае лепшых беларускіх сыноў у складзе Рады і выказвае словы даверу ейнаму Прэзыдэнту і зычыць Радзе плённае працы на карысьць разбуранае бальшавікамі Беларусі. Затым з вялікай праграмавай прамовай выступіў Прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады сп. Радаслаў Астроўскі, які падаў да ведама беларускай і нямецкай грамадзкасьці шырокія пляны адбудоўчай працы Рады ва усіх даверанных ёй галінах дзейнасьці. «Бараніць Бацькаўшчыну ніколі ня позна» — гэтыя заключныя словы Прэзыдэнта асабліва пераканальна гучэлі у вуснах гэтага пасьлядоўнага, з багатым стажам і дазнаньнем беларускага дзеяча, якім зьяўляецца сп. Астроўскі. У сваёй прамове сп. Астроўскі зрабіў агляд гісторыі змаганьня беларускага народу за свае дзяржаўныя ідэалы супроць імпэрыялістычных імкненьняў Масквы і Варшавы і выказаў упэўненасьць у канчатковай перамозе вызвольных сілаў Эўропы,



*Агульны выгляд залі Паседжаньня Беларускай Цэнтральнай Рады.*



*Генэральны Камісар Беларусі генэрал-лейтэнант фон Готтбэрг на Першым Урачыстым Паседжаньні вітае Беларускую Цэнтральную Раду.*



*Першы Віцэпрэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады сп. Мікалай Шкелёнак.*

глыбокую веру у тое, што і Беларусь здабудзе сваё мейсца сярод народаў.

Сіла пераконаньня словаў Прэзыдэнта перадавалася праз ягоную прамову усім прысутным і спараджала агульную веру у лепшы лёс Беларусі. Нібы доказам гэтага было агульнае адсьпяваньне беларускага і нямецкага нацыянальных гімнаў і узьняты для салюту лес рук, і упэўненасьць, што сьвяцілася у паглядах людзкіх вачэй.

Абнадзееныя на лепшыя пэрспэктывы, з вераю і адданасьцяй свайму народнаму прадстаўніцтву — Беларускай Цэнтральнай Радзе, з глыбокім даверам свайму Прэзыдэнту, народ разыйшоўся, каб штодзённай працай, арганізаванасьцяй, сваёй чыннасьцяй зрэалізаваць гэтую вялікую праграму. А для Рады, ейнага Прэзыдэнта і сябраў за гэтым пачынаецца вялікая штодзённая праца, каб залячыць усе раны Беларусі. У добры-ж час!



*Сябры Беларускай Цэнтральнай Рады салютуюць.*



*Другі Віцэпрэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады сп. Юры Сабалеўскі*



*З залі Першага Урачыстага Паседжаньня Беларускае Цэнтральнае Рады.*

# НАШ ПРЭЗЫДЭНТ



*Прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады сп. Радаслаў Астроўскі у сябе дома.*

Прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады нарадзіўся 25 кастрычніка 1887 г. у Запольлі на Случчыне, у сям'і дробнага земляўласьніка.

Па заканчэньні пачаткавай і сярэдняй асьветы у Слуцку пераяжджае у 1908 г. у Пецярбург, дзе паступае на фізычна-матэматычны факультэт унівэрсытэту. Успрынены у Случчыне дух бунтарнай народнай рэакцыі кідáе яго у асяродак студэнцкай падпольнай працы, за што быў царскім урадам у 1911 г. арыштаваны і высланы у Пружаны на Горадзеншчыне. Дыплём аб заканчэньні унівэрсытэту атрымоўвае толькі у 1913 годзе пры Дэрпцкім унівэрсытэце і у гэтым-жа годзе прызначаецца за настаўніка гімназіі у Чэнстахове.

У 1914 годзе Р. Астроўскі пераяжджае у Менск, дзе працуе да жніўня месяца 1917 г. за выкладчыка матэматыкі пры Менскім настаўніцкім інстытуце. Побач з гэтым быў прызначаны 6 траўня 1917 году за камісара часовага ураду на Слуцкую акругу, дзе прабыў да сьнежня 1918 году. Тут Р. Астроўскі адчыняе І-шую Беларускую гімназію і кіруе ёю сам ад 24 жніўня 1917 да 4 сьнежня 1918 году.

З прыходам бальшавікоў пераяжджае у Марыупаль, дзе на зьмену або змагаецца з бальшавікамі у арміі Дзянікіна, або зноў хаваецца ад бальшавікоў, працуючы за настаўніка. Пасьля разгрому аддзелаў Дзянікіна у 1919 г. пераходзіць польскую граніцу і вяртаецца у Слуцак, заняты тады палякамі. Тут ізноў на працягу ½ году працуе за дырэктара беларускае гімназіі. У ліпені 1920 году, хаваючыся ад бальшавікоў, пераяжджае у Пружаны.

У Польшчы працуе ад 1920 г. да 1923 году у польска-амэрыканскім камітэце дапамогі дзецям. Працуе на становішчы кіраўніка пінскага аддзелу. Ад 1923 г. з перапынкамі да восені 1936 году быў за дырэктара беларускай гімназіі у Вільні. Адсюль, пасьля завастрэньня антыбеларускага курсу палітыкі, высланы палякамі у Лодзь (Ліцманштадт), дзе прабывае да 1941 году. Пасьля заняцьця Лодзі нямецкім войскам і арганізацыі там беларускага жыцьця, працуе старшынёй лодзкага аддзелу Беларускага Прадстаўніцтва у Нямеччыне аж да пачатку нямецка-савецкай вайны.

Зараз-жа пасьля вызваленьня Беларусі Р. Астроўскі накіроўваецца на бацькаўшчыну. Тут ад ліпня да кастрычніка 1941 году кіруе Менскую акругу. Пазьней аж да сьнежня 1943 г. стаіць чаргова на чале Бранскай, Смаленскай і Магілёўскай акругі.

Радаслаў Астроўскі — гэта адзін з лічаных ужо сяньня вэтэранаў вызвольнага змаганьня беларускага адраджэнцкага руху. У кажны пэрыяд жыцьця бачым яго у асяродзьдзі больш ці менш легальнай, але заўсёды пэўнай адказнасьці працы для бацькаўшчыны. Пасьля кажнага гістарычнага пералому ён ідзе, як запраўдны чэсны змагар за вызваленьне, на тую пазыцыю, з якой найбольш надзейна ісьці за волю народу.

У годы маладосьці, у Слуцку, Р. Астроўскі — старшыня беларускага гімназіяльнага гуртка і сябра Беларускай Сацыялістычнай грамады. За гэта прасьледуецца царскім урадам. У часы Беларускай Народнай Рэспублікі кіруе жыцьцём Случчыны і змагаецца за яе нацыянальнае аблічча супроць бальшавіцкай дэмаралізацыі.



*Прадстаўнік беларускага часапіса «Новы Шлях» (першы справа) сярод сяброў Беларускай Цэнтральнай Рады: (зьлева направа) сп. сп. У. Родзька, Прэзыдэнт Р. Астроўскі і Віцэпрэзыдэнт Ю. Сабалеўскі.*

Пад польскай акупацыяй становіцца у шэрагі наймацнейшай тады актыўнай арганізацыі Беларускай Сялянска - Работніцкай Грамады, і ён — старшыня Таварыства Беларускай Школы — стаіць на чале змаганьня за нацыянальную школу. За гэта трапляе у польскую турму на час ад 15. І. 1927 да 22. V. 1928 г. І гэта, і пазьнейшая ссылка у глыб Польшчы яго не зламалі. Пры першай магчымасьці ён ізноў вяртаецца на бацькаўшчыну, каб на чале наймаладзейшых піянэраў беларускасьці закончыць змаганьне за сьветлы лёс Беларусі.

Сяньня сп. Радаславу Астроўскаму, як прэзыдэнту Беларускай Цэнтральнай Рады, даверана арганізаваць грамадзкія і палітычныя сілы нашага народу на апошні пераможны бой за будучыню. І народ з даверам аддаé у ягоныя рукі лёс свайго заўтра, бо верыць яму як нястомнаму нацыянальнаму змагару і непахіснаму у чынах патрыёту.



*Прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады сп. Р. Астроўскі з Другім Віцэпрэзыдэнтам сп. Ю. Сабалеўскім.*



*Рэдактар часапіса «Новы Шлях» гутарыць з Прэзыдэнтам Беларускай Цэнтральнай Рады сп. Р. Астроўскім.*

# БЕЛЫ СЬНЕГ

С. Алесь



І сыплецца, сыплецца мяккая пацяруха зь неба... І, здаецца, — ня неба над галавою, а — неабсяжны ток. Ходзіць па ім гаспадар руплівы — вецер, варушыць нязграбныя копы — хмары, глытае трушанку іхную ў жоран свой, круціць, варушыць у жорне і меле, і, папярхнуўшыся, сыпле — ня зерне — муку долоў...

Мука — буйная і нязвычайная. Кажны маленькі драбочак ейны — крышталь; пакуль даляціць да долу — мароз-валадар у шаць, у пушок прыбярэць яго. А колькі такіх драбочкаў? — пэўна, кропляў у моры вады ня менш і ня больш...

Сыплецца... сыплецца... сыплецца...

Белы сьнег.

Падае, падае... Мкнецца долу; на хаты, на дрэвы падае, на сьнежную бель. Бель — на бель...

Хаты — апошні прыпынак і мейсца, дзе быў спачын, засталіся ззаду. Наперадзе — вялікі гасьцінец, — шырокі шлях — стогадовыя бярозы па бакох. Дарогі — ні сьледу, ні знаку няма. Як бачна — колькі дзён не праяжджаў тут чалавек і ня ступала ягоная нага. Толькі бярозы — задумныя мроі — значаць шлях.

Цяжка рухацца гэтым шляхам, ісьці наперад. Цьвёрды тор засыпаны глыбокім сьнегам. Ногі западаюць у глыб, топнуць у ёй. Нельга ступаць. Здаецца, не наперад рухаешся, а назад.

Цяжка, але трэба ісьці.

Ужо чацьвёрты дзень знаходзіцца ў цяжкой дарозе Алесь. Цацьвёрты дзень — дарога, чацьвёрты дзень — пяшком.

Толькі ўначы — адпачынак у жытле такім-сякім, што пры дарозе...

Алесю пашчасьціла вырвацца з чужацкіх мясьцінаў. Цяпер — шлях да радзімы

І цяжкі, нялёгкі шлях. Чацьвёрты дзень усьцяж — сьнег і сьнег. Здаецца, неба сыпле яго з усіх засекаў, а мае іх гэтулькі, што і ня зьлічыш, і кажная жменя з кажнага засеку кропля ў моры...

Замоўкне, адчуўшы стому, вецер — і кружацца ў лёгкай суладнасьці сьняжынкі, павольна і мякка кранаюцца да зямнога саяну. Выляціць, адпачыўшы, зь недалёкае лагчыны вецер ізноў — замітусяцца, заскачуць сьняжынкі, як і раней, заказычуць твар падарожніка, закруцяцца ў паземцы над долам. Замахаюць галінкамі бярозы, страсуць цяжар, а сьнег засыпае іх ізноў.

І ўсё сыплецца і сыплецца...

А йсьці нялёгка. Хацелася-б легчы ў пуховую пасьцелю, адпачыць. Няшмат — адну толькі часінку. Хай сьпявае тады свае дыфірамбы вецер. Калі супачыне трохі сэрца, вальней удыхнуць грудзі паветра, можна будзе прыслухацца да іх... Хай тады кружацца ў танцы пад іхныя гукі сьняжынкі, хай кружацца колькі хочуць; тады і можна будзе адчуць хараство іхнага лёту ў прасторы, іхнага быцьця сярод жывых і нежывых...

Аднак, не... Ні на адну часінку ня трэба спыняцца. Трэба ісьці.

Да любых мясьцінаў, да блізкай з маленства хаты ня шмат засталося ўжо. Яшчэ колькі кілёмэтраў — і ўсё. Пакуль вечар — і дома. Таму — ні на часіну ня спыняцца. Ісьці, ісьці...

Там, напэўна, і не чакаюць. Там уважаюць, напэўна, што ўжо даўно загінуў...

Не, ён не загінуў, ён жыве. Ён ні на адну часіну не забываўся на блізкую сэрцу зямліцу, на родных сваіх і дарагіх. Ён разам зь імі жыў у мроях і ў мроях імкнуўся да іх...

І ад самага сэрца выліваюцца словы... Не, гэта ня словы; гэта — кроплі гарачай крыві, кроплі палымністага сэрца. Гэта — верш, складзены, напэўна, яшчэ раней. Вусны шэпчуць словы вершу:

> Думы! Думы! І ўдзень, і ўначы
> Не давалі вы мне супакою,
> Там блукаючы, там жывучы,
> Дзе зямля, што завецца маёю.
> Лёгкай птушкай сягалі туды,
> Холад зімаў вялікшых міналі,
> Праз парогаў чужых невады
> Вы крыніцай жывой працякалі...

А сьнег не перастае, і не перастае ісьці...

Ужо пачынае сутунець. Няўжо і запраўды сутункі? Да хаты-ж было недалёка. Да сутункаў трэ' было быць там. А тут яшчэ — чужая зямля... Можа гэта здаецца...

Але штораз — цямней і цямней. Запраўды сутунее. Нешта і ногі адмаўляюцца далей ісьці. А паблізу — ніводнае хаты, ніводнага жытла.

Зусім нечакана душыць кашаль. Балюча вырываецца з горла. Сэрца, маўляў, ад напружаньня вырвецца з грудзей...

А дарога, нібы наперакор, яшчэ больш цяжкая. Сьнег — вышэй калена. Ніяк немагчыма ісьці.

Ужо амаль цёмна. Мацней дыхнуў вецер. Праясьняецца неба. Выглядвае зрэдку месяц — мосяжны чарапок.

І гэтак хочацца піць! Здаецца, каб хоць адзін глынок вады было ў гэтым чарапку...

Ды не дастаць яго рукой, не зачарпнуць ім вады — каб і было адкуль, — не зачарпнуць...

Напэўна, сумысьля вецер не адстае цяпер, прычапіўся, прыліп. Не адстае і не адстае:

— А-лесь... А-лесь... Супачні, супачні... На пасьце... пась-це-лі...

А ён яшчэ спрабуе ісьці. Ступіць два крокі — кашаль зноў спыняе яго, кружыцца галава. Ён хапаецца рукамі за паветра — не адчувае ў ім апоры і — падае... Напружваючы сілы ўстае, спрабуе ісьці далей. Два крокі — і зноў кашаль валіць з ног. Хапаючы надарванымі грудзямі паветра, падае...

А паблізу — ніводнае хаты, ніводнага жытла...

Закіданая сьнегам дарога. Наперадзе — ніводнага сьледу. Колькі дзён не праяжджаў чалавек, ня ступала ягоная нага...

Зноў зваліўся долу. Памкнуўся ўстаць — ня змог. Ня ўстаў...

Цяпер зусім добра. Цёпла, як у хаце. Ня страшна, што — мароз. Няхай сабе... Затое цёпла і добра. Толькі кашаль... Кашаль. Ня могуць грудзі ўдыхнуць паветра.

І раптам... Месяц адплыў нейдзе далёка, далёка; зьнік з вачэй, потым зноў наблізіўся.

«Няўжо, няўжо... гэта мой канец?...» мільгнула думка. І зноў кашаль.

Цёплы струменьчык крыві хлынуў з горла. А вусны, здаецца, нешта шэпчуць... Не, гэта ня вусны, гэта самі словы ідуць ад думак:

> О, каханы, о любы мой краю!
> Дай мне сілаў, жыцьцё мне вярні!
> Я паблізу цябе паміраю
> На парозе тваёй вясны...

...Неўзабаве пачалося сьвітаньне. На аснежаным гасьцінцы, раскінуўшы рукі, ляжаў на сьпіне чалавек. Струменьчыкі чырвонай крыві замерзьлі на шчацэ, на каўняры, на белым сьнезе...

Замоўкла сэрца. Заціхла дыханьне. Спыніліся думкі. Анямелі пачуцьці.

Памёр чалавек.

Белы сьнег... Чырвоная кроў...

10. 2. 1944 г.

Н. Арсеньнева

## ВЯСНОЙ

*Я — ня жыву вясной...*
*Рунеюць сенажаці,*
*Курэе сіні дым над кратамі палёў,*
*І за мяне*
*Цьвіце у сонцавых абняцьцях*
*Празрысты, белы пух вярбін і тапалёў.*
*Я й летам ня жыву, — бо за мяне сінеюць*
*У полі васількі і гнуцца каласы,*
*І жаляцца-пяюць на жоўтых пожнях жнеі,*
*Маўляў, маёй тугой дрыжаць іх галасы.*
*А ўвосені ізноў —*
*Замест мяне — асіны*
*Чырвоны гасяць жар у рэдкім тумане.*
*І плача дробны дождж так нудна і няўпынна*
*Па сонцу і вясьне, але...*
*Замест мяне!*

Р. Крушына

## СЬНЯЖЫНКА

*Адцьвіла вяргіня белая...*
*Мне «бывай» сказала ты.*
*Зьнікла радасьць недасьпелая*
*Ў дзень асеньні, залаты.*

*Я сваю душу рагожаю*
*Ня ўкрываў, як быў з табой.*
*Ад цябе пайшоў, прыгожая,*
*Зь незагоенай журбой.*

*Ідучы ў жыцьцё сьцяжынкаю,*
*Ні на што не наракаў...*
*Я над першаю сьняжынкаю,*
*Што зьляцела на рукаў,*

*Загарэўся успамінамі:*
*Саматканы твой вузор*
*Тонка сплецены ільдзінамі*
*У карунак дробных зор.*

*У цябе каўнерык вязаны*
*Акурат, як сьнегу брыж...*
*Можа штосьці недасказана,*
*Дык цяпер дагаварыш.*







# МАСТАЦКАЕ РУКАДЗЕЛЬЛЕ БЕЛ

Беларуская жанчына ма́е прыроджаныя здольнасьці і вялікае імкненьне да розных рукадзельных вырабаў. Ужо шасьці ды сямігадовыя дзяўчынкі, лашчачыся да заўсёды занятай працаю маці, упрашваюць яе, каб яна паказала як лепш пашыць лялькі спаднічку, або кашульку. І беларуская маці у гэткіх выпадках ніколі не адмовіць ні у паказе, ні у належных тлумачэньнях, бо яна даўно ужо прыглядалася да сваёй дачушкі і чакала таго мамэнту, калі малая сама зацікавіцца шыцьцём, або вязаньнем.

Кажная беларуская сялянка, якая ніколі нават і ня чула, што ёсьць гэткія асабліва разумныя навукі, як псыхалёгія і пэдагогіка, над якімі працуюць лепшыя філёзафы сьвету, добра аднак ведае, што сілком і прымусам ня трэба дзяцей навучаць якой-колечы працы, асабліва рукадзельнай, што трэба выклікаць у дзяцей унутраную зацікаўленасьць тэй ці іншай справай і жаданьне «самім зрабіць» тую ці іншую рэч. Тады яны будуць самі дамагацца, каб ім паказалі «як гэта робіцца». І калі ім пакажуць, дык дзеці зараз-жа усё паказанае пераймуць.

Можна сказаць з поўнаю пэўнасьцяй, што за многа стагодзьдзяў да заклікаў ведамага пэдагога Аммоса Каменскага, які навучаў як трэба выхоўваць малых дзяцей, ды задоўга да Генрыха Песталоцьці і Фрыдрыха Фрэбэля, якія асабліва дамагаліся, каб першыя веды дзіцяці падносіліся найперш у выглядзе прыемнае гульні, — беларуская маці сваім уласным надумам арганізавала з сваймі малымі дочкамі гэткія творчыя гульні, шыючы з імі разам лялькі, а затым незаўважна для дзяцей заахвочваючы іх, каб самі дзяўчаткі да пашытых маткай лялек шылі-б кашулькі, спаднічкі і сьвіткі ды заахвочваліся-б да вязаньня і вышываньня.

Асабліва шмат пачынаюць працаваць беларускія дзяўчаты ад 12—14 гадоў, калі яны ужо сьведама захопліваюцца вышываньнем, вязаньнем паясоў і тканьнем палатна. Руплівыя маці стараюцца выклікаць у сваіх дачок жаданьне выперадзіць у рукадзельніцтве іншых дзяўчат вёскі і, з гэтай мэтай, пачынаюць ужо часам казаць дачцы, каб яна патроху пачынала рыхтаваць сабе «пасаг».





# ЕЛЬЛЕ БЕЛАРУСКІХ ЖАНЧЫНАЎ

Кажная беларуская вясковая дзяўчына мусіць абавязкава умець прасьці кудзелю і воўну, ткаць палатно, плясьці паясы, пашыць кашулю і спадніцу ды вышыць іх. Калі-б якая-колечы дзяўчына ня умела гэтага рабіць, дык на усю ваколіцу пайшла-б аб ёй ганебная слава, як аб няўдалай і дурной дзеўцы, і на сяле яе інакш і ня звалі-б, як — «няўмека», ды — «гультайка». Гэткую дзяўчыну не зажадаў-бы пасватаць ніводзін хлапец, бо працавіты і здольны беларускі народ з вялікай зьнявагай ставіцца да усіх гультаёў і няўмекаў.

У гэтым нумары нашага часапісу мы падаём прымернікі аднэй з найцяжэйшых рукадзельных працаў, гэтак званае «мярэжкі». Вырабы гэтага характару асабліва пашыраныя сярод беларускіх жанчынаў цэнтральнае і усходняе Беларусі. «Мярэжкавым» узорам аздобліваюцца тутака канцы ручнікоў, куты настольнікаў і «прашыўкі» наўлечак на падушках. На першых трох здымках (угары) дадзеныя канцы трох ручнікоў, якія навешваюцца на абразы. На трох іншых фотаздымках (унізе) паказаны прымернікі трох кутоў розных настольнікаў. На двух апошніх фотаздымках (пасярэдзіне: справа і зьлева) паказаны прымернікі мярэжкавых «прашывак» на канцох наўлечак.

«Мярэжкавыя» працы патрабуюць мастацкага густу, спрытнасьці пры выцягваньні нітак з тканіны і вялікага уменьня правільна і прыгожа абшыць ды абвязаць пакінутыя ніткі, каб надаць ім прыгожы карункавы арнамэнт, вытрыманы у розных геамэтрычных камбінацыях. Мярэжкавыя арнамэнты, часам дужа складаныя і вельмі дробныя, вымагаюць асаблівае увагі, бо выправіць памылку бадай немагчыма. Тая акалічнасьць, што пры мярэжкавых працах не патрэбна ніякіх грамозных прыладаў, зрабіла дужа папулярнай гэтую працу ня толькі у сялянскіх хатах, але і у сямейках беларускіх мяшчанаў ды інтэлігенцый. Да І-ае усясьветнае вайны у розных гарадох Беларусі былі нават адчыненыя асобныя курсы, на якіх вучылі выконваць і складаць свае высакамастацкія арнамэнты «мярэжкі». Вельмі былі пашыраныя «мярэжкавыя» працы і у розных рукадзельных майстроўнях пры манастырох. *К. Ез.*










# Страшны год

Юр. Монвід

*(Успаміны нядаўніх дзён)*

*(Працяг)*

Афіцэр выйшаў на панадворак. Значыцца, ужо хутка. Я здымаю боты, папраўляю свае шкарпэткі, каб нідзе ня ціснула нагу, бо цяпер увесь ратунак у нагах...

Ну і у сэрцы!... Каб сэрца вытрывала! Але яго не абкруціш ні лахманамі, ні ватай. А яно ужо цяпер б'ецца моцна, быццам папераджаючы: «на мяне, браток, шмат не спадзявайся... Я ужо зморанае, старое, слабое... Службу сваю ужо адслужыла... Пара́ ужо і на супачын...»

— Бітэ... Комэн зі...

Афіцэр кіўнуў на нас. Мы усхапіліся з зямлі і пайшлі за ім...

Падыйшлі да нейкага раўчака. Затрымаліся на мосьціку...

— — — — — — — — —

## НАЧНОЕ ПАДАРОЖЖА

— — — — — — — — —

Мы арыентаваліся па зорах. Гледзячы на Вялікую Мядзьведзіцу, мы ішлі на паўночны усход, спрачаючыся аб дарозе. Мой камрат меў тэндэнцыю паварачваць больш направа, а я сьцьвярджаў, што трэба кіравацца больш улева. Мы ня шукалі дарог. Ішлі проста праз палі, сенажаці, жыта. О, калі траплялі у жыта, дык чуліся зусім добра! Трохі толькі схіліўшы галаву, мы ужо ведалі, што нас тут ніхто ня убачыць. Калі спатыкалі на дарозе нейкі хутар, стараліся яго старанна абмінаць, каб ня убачылі нас людзі, не пачулі сабакі... А хто яго ведае, можа там пад страхой сядзяць бальшавікі...

У нас ужо было пастаноўлена: будзем кіравацца на мястэчка Л. — гэтае самае, каля якога я перайшоў граніцу, ідучы у Нямеччыну. Пад гэтым мястэчкам мой камрат меў знаёмага. Там мы меліся выспацца у стадоле і на́нач зноў ісьці далей, кіруючыся на Коўню.

Перасякаем нейкую дарогу. Зьлева нешта бліснула. Раптам на павароце зазіхацелі поўным сьвятлом два рэфлектары аўта. Ні перад намі, ні за намі няма ні кусточка, ні дрэўца, ні ямы. Толькі згараная зямля. Мы кінуліся тварам на зямлю.

Цішыня. Ніхто нас не чапае. Аўта праляцела, не заўважыўшы нас. Я асьцярожна падымаю галаву. Гляджу. Майго таварыша падарожжы няма. Што за ліха! Што сталася? Куды-ж ён падзеўся?...

Месяц схаваўся за хмары і навокал запанавала цемра. Я углядаюся у цемру ночы. Раптам бачу: нейкі цень... Нехта ідзе у маім кірунку. Уцякаць няма часу. Дагоніць. А мо' ня убачыць. Я зноў шчыльна прылягаю да зямлі...

Нехта тармошыць мяне за плячо...

— Што з вамі? Вы жывы ці ужо памёрлі?

Гэта вярнуўся мой камрат.

Як высьнілася, пасьля праезду аўта ён падняўся і, думаючы, што я зрабіў гэтак сама, пайшоў далей. Адыйшоўшы крыху і убачыўшы, што мяне няма, ён вярнуўся і пачаў мяне шукаць....

Ізноў ідзём. Ізноў спрачаемся. Я хачу паварачваць улева, ён кіруецца управа. Зноў месяц выпаўз з-за хмараў. Праклінаем гэты зрадлівы сьвет. Страшэнна піць хочацца. Паміж кустамі спатыкаем нейкае балотца. П'ём сваймі шапкамі гэту цёплую, брудную, балотную жыжу.

На небасхіле пачынае сьвятлець. Ужо золак. Хутка трэба будзе недзе спыніцца, адпачыць. Падыймаемся на нейкую гару. Ужо пачынаецца усход сонца. Мы бачым раскінутае унізе пад намі нейкае мястэчка.

Гэта ня Л. Мы прыглядаемся да касьцельных вежаў, да агульнага выгляду гэтага аселішча і аднагалосна сьцьвярджаем: але, гэта не мястэчка Л. Гэта іншае.

Але якое? Дзе мы? На якой тэрыторыі?

Каго спытацца? І як спытацца? Што людзі падумаюць, калі убачаць на досьвітку двух брудных, абмызганых балотам тыпаў з партфэльчыкамі пад пахай, якія пытаюцца, што гэта за мястэчка. Дык-жа апошні дурань зразумее, што тут справа нячыстая.

Мы рашылі не паказвацца людзям на вочы, праспацца у жыце, а уначы ізноў ісьці у кірунку паўночна-усходнім.

## ПАПАЛІСЯ

Мой таварыш, як сьпіць, ма́е благую прывычку храпсьці. У мяне-ж яшчэ горшы недахоп, вынесены яшчэ з Саловак. Калі я засну пасьля нейкіх цяжкіх перажываньняў, я у часе сну стагну, енчу...

Ня па́мятаю, што мне тады сьнілася. Але было нешта такое, што прымусіла мяне прачнуцца. Я падняў галаву і пачаў разглядацца. Мой камрат спаў і хроп, як мядзьведзь. Непадалёк чутны былі галасы і чуўся шум расхіляных рукамі каласоў.

Ішлі да нас нейкія людзі.

Я разбудзіў свайго храпуна.

— Ня сьпеце! нехта ідзе!

Уцякаць ужо позна. Што будзе, то будзе. З трох бакоў зьяўляюцца між каласоў сярдзітыя сялянскія твары. Кажны з сялян з віламі у руках...

Справа няважная. Я ведаю, што зараз будуць нас пытацца, хто мы, адкуль, як мы тут апынуліся... Гэта вось гэтыя пытаньні, на якія мы не хацелі-б даваць адказу, а прыдумаць нешта накшталтнае дапраўды нам не удалося.

Я, крыху ведаючы літоўскую мову, стараюся ратаваць палажэньне. Галоўнае, каб адсунуць гэтую часіну, калі будуць нас пытацца. Я пачынаю плясьці розную неразьбярыху... Сьмяюся, дзякую, што нас разбудзілі, прашу прабачэньня, што мы патапталі жыта, паказваю свой пашпарт, пытаюся, якое гэта мястэчка, кажу, што былі у знаёмых на выпіўцы, уначы заблудзіліся, змарыліся, ня ведаем куды трапілі, хацелі супачыць крыху... і г. д.

Сяляне глядзяць на нас з недаверам. Разглядаюць мой пашпарт. Круцяць галавой...

— Пашпарт, здаецца, як ма́е быць... Хто вас ведае, што вы за людзі...

Мястэчка, якое мы перад сабой бачым, — гэта Кальварыя.

Цяпер справа была для мяне ясная, што нас затрымаюць, ня пусьцяць далей ісьці, аддадуць у рукі улады.

---

<u>*М. Сяднёў.*</u>

## *ДОМІК У МЕНСКУ*

*Дрыўляны дом! Блакітны дом!*
*Маіх найлепшых мар прытулак!*
*Ці так-жа ўсё сваім вакном*
*глядзіш на вузенькі завулак?*

*Ці шчасьцем ты сваім багат?*
*Ці шашаль сьцены твае губіць?*
*Ці так-жа ўсё зялёны сад*
*тваю ідылію галубіць?*

*Скажы ты мне, скажы ты мне,*
*дзе зараз тая, што начамі*
*малілася сваёй вясьне, —*
*такая... з сінімі вачамі?*

*Ці ёй цяпер, як і тады,*
*Ад нечага ўсё сумна, цяжка?*
*Як пражывае век свой малады*
*мая прыгожая манашка?*

*Што з ёй цяпер? Свой ціхі сум*
*яна ў вачох па мне ці носіць?*
*Гаротнасьць цяжкіх яе дум*
*каго разьвеяць яна просіць?*

*Дрыўляны дом, гадуй свой сон!*
*Пястуй у садзе свой спачынак!*
*Ты мар найлепшых пантэон,*
*адзіны дум маіх прыпынак.*

*1937 г.*

---

<u>*Алесь Салавей*</u>

## *РАМАНС*

*Толькі там,*
*Дзе айчыны бальзам,*
*Адзінота душу не кране*
*Толькі там.*
*Аб сваёй старане*
*Я нікому ўспамінаў, о не,*
*Не аддам.*

*Толькі тут*
*Непатолі прысуд*
*І маркота няволіць мяне,*
*Толькі тут.*
*У чужой старане*
*Не забуду цябе я, о не,*
*Родны кут.*

*Рыга, 29. XI. 1943 г.*

Каб нам не сказалі: «хадзеце з намі!», я сам выклікаюся ісьці на хутар. Пытаюся, ці можна купіць малака. Прапаную ім закурыць.

Закурваюць, але глядзяць на нас спадылба.

Ідзём на хутар. Я увесь час бязупынна трайкачу то аб тым, то аб сім, з аднэй думкай, каб ня даць магчымасьці задаваць нам пытаньні...

У хаце нам далі малака. Прагавіта п'ём. Расказваюць нам, як нас знайшлі у жыце. Пастушок непадалёк ад нас пасьціў жывёлу. Пачуўшы у жыце нейкія стогны-храпы, падумаў, што там акалявае якійсьці паранены зьвер. Паведаміў людзей. Тры сьмялейшыя, узброіўшыся віламі, пайшлі дабіваць непажаданага госьця... І былі надта зьдзіўленыя, убачыўшы у жыце, заміж зьвера, двух падарожных...

Гэты мамэнт уносіць крыху гумару у нашы суадносіны. Гэта ужо добра. Там, дзе сьмяюцца, там віламі ня колюць. Можа нават нас пусьцяць ісьці сваёй дарогай...

## ІЗНОЎ УЦЁКІ

Я глянуў праз вакно. Ля хаты стаяў хлапец, які майстраваў каля вэлёсыпэду: пампаваў паветра у кола... Мне зрабілася ясна: ён сьпяшаўся у мястэчка, каб там паведаміць каго трэба аб знойдзеных у жыце нязвычайных падарожных. Я штурхануў свайго камрата: трэба уцякаць. Ён зразумеў... Мы хутка разьвіталіся, за малако ад нас грошай ня узялі, і пайшлі... Прайшоўшы крокаў ля сотні, мы, не зважаючы ні на што, кінуліся бегчы. Беглі праз поле, праз сенажаці, стараючыся абмінаць людзкія аселішчы, так як і уначы пасьля пераходу граніцы, з тым толькі адрозьненьнем, што тэмп нашых уцёкаў быў шмат шпарчэйшым за начное падарожжа...

Людзі кідалі работу у полі і доўга глядзелі нам ўсьлед. Але ніхто за намі ня гнаўся. Гэтак мы прабеглі каля трох кілёмэтраў. Нарэшце трапілі у густое жыта. Тут зваліліся бязьсільна долу, цяжка дыхаючы і чакаючы пагоні.

Але ніхто ня гнаўся, было ціха.

Сонца падыймалася усё вышэй ды вышэй. Пачынаўся гарачы летні дзень. Мы парашылі ляжаць тут да ночы, а уначы абыйсьці Кальварыю ды ісьці далей пехатой у напрамку Коўні.

Мой таварыш быў таго пагляду, што зьяўляцца нам у Кальварыі небясьпечна.

Мы ляжалі у жыце, чакаючы змроку. Нас мучыла страшэнная смага. У мяне гэтак высахла у горле, што я ня мог ужо гаварыць. З вялікай натугай вырывалася у мяне з вуснаў слова, як у цяжка хворага чалавека...

*(Працяг у наступным нумары.)*

---

Янка Богдан

## КАЗКА НОЧЫ

*Зоры*
*пакаціліся*
*на воўністы*
*абшар*
*лявоніхай блеску й серабра...*
*Месяц-самазванец сабе лоб падпёр*
*на карк «Мядзьведзіцы»*
*і лушчыць пачаў*
*з «Белае дарогі»*
*іней зор,*
*І сыпаў*
*даўгою дугою,*
*аж зьвісьлі рукавом*
*ў пагоні за сонцам*
*ці сном...*
*Ноч тулілася да лесу маўчком.*
*Мо' дзівілася серабрыстым ўзорам,*
*што на коўдры неба месяц хітра*
*ткаў?*
*Раптам,*
*у наквеці агнявой лісы*
*маланкай пырснуў мэтэор!*
*Крывавым мячом ішоў уплаў,*
*сек бліскавіцай расу зор,*
*хвастом чырвоным замятаў*
*пыл ноччу вытканай шашы;*
*Аж запутаўся,*
*нырца даў пад «Сітцо» і —*
*прапаў...*
*Толькі зоры дзівіліся...*
*Месяц з насьмешкай*
*сваё калясо прыпадняў,*
*быццам хацеў сказаць:*
*«чаму я трываю, сьвячу?...»*
*Але зорам спадабаўся гэны «пан»*
*агністы-палымністы — зьява-сон...*
*(Кажнай збрыдзеў месяц-сьлепата!)*
*Адна здумала:*
*«Эх, давай палячу і я ў агністы*
*перагон,*
*хоць той дзіў незнаём —*
*палячу!*
*Што мне жыць ў натоўпе густым,*
*Палячу лепш,*
*за ім!*
*Лепш згару ў агні,*
*растаплюся, як ён —*
*бо ня гэты жыве,*
*што валочыцца сном,*
*але той, хто хоць раз бліснуў ўсім*
*сабой, бы мэтэор!»*
*І зноў серабрыста выткалася нітка*
*— паляцела!*
*быццам казка, ці пух...*
*(Месяц няхай сьпіць!)*
*Зоры адна за аднэй у прастор —*
*бух!*
*бух!*
*Месяц анямеў.*
*(О, цяжкая доля!)*
*Ад злосьці, бясьсільля*
*уздрыгнуў,*
*шчырванеў,*
*пакаціўся,*
*прысеў,*
*пакаціўся ізноў,*
*аж запутаўся ў хмары,*
*пасінеў,*
*і бясьсільна глядзеў у прастор...*
*Нейдзе ў далі,*
*на скраю ідучага дня,*
*плыла ўсходу чырвоная постаць...*
*Як зá рава,*
*месяц зіхценьне узьняў,*
*і зоры ня стáлі паласкацца,*
*лётаць.*
*А калі росы рáньня,*
*ў бурштынах васеньніх лунаньняў*
*бледналіцы месяц цалаваў, —*
*пад борам зялёным,*
*у праменьняў кароне*
*рáнак казку ночы дапрадаў...*

*13. 9. 1943 г.*

---

# Нямецка-беларускія размовы

**Абазначэньне вымовы нямецкіх словаў беларускімі літарамі:**

а:, э:, і:, у:, о: — вымаўляць працяжна;
г' — як г у слове ганак ці лацінскае **g**;
ю̈ — як і, але з выцягнутымі вуснамі;
ö — як э, але з выцягнутымі вуснамі;
нг — як н, але вымаўляць праз нос;
усе іншыя літары — як і беларускія.

Ich bedaure sehr, Ihnen nicht dienen zu können (іхь бэдáўрэ зэ:р, і:нэн ніхьт ді:нэн цу кöнэн). — Вельмі шкадую, што не магу Вам прыслужыцца.

Sie können gewiss noch einen Augenblick bleiben (зі: кöнэн г'эвіс нох áйнэн áуг'энблік бляйбэн). — Вы, пэўна, можаце застацца яшчэ часінку.

Ich habe noch sehr viel zu tun (іхь гá:бэ нох зэ:р фі:ль цу ту:н). — Маю яшчэ шмат чаго зрабіць.

Ich habe viele Gänge zu machen (іхь гá:бэ фі:ле г'энгэ цу мáхэн). — Маю шмат куды яшчэ зайсьціся.

Ein anderes Mal werde ich länger bleiben (айн áндэрэс ма:ль вэ́:рдэ іхь лéнгэр бляйбэн). — Другі раз я застануся даўжэй.

Ich danke Ihnen für Ihren Besuch (іхь дáнгкэ і:нэн фю̈:р і:рэн бэзý:х). — Дзякую Вам за адведзіны.

Ich hoffe, Sie bald wieder zu sehen (іхь гóфэ, зі: бальт ві:дэр цу зэ́:эн). — Спадзяюся Вас зноў хутка убачыць.

Ich muss von Ihnen Abschied nehmen (іхь мус фон і:нэн áпші:т нэ́:мэн). — Павінен разьвітацца з Вамі

Auf Wiedersehen (аўф ві:дэрзэ́:эн)! — Да пабачаньня!

Auf baldiges Wiedersehen (аўф бáльдіг'эс ві:дэрзэ́:эн)! — Да хуткага пабачаньня.

Bitte, kommen Sie bald wieder (бітэ, кóмэн зі: бальт ві:дэр)! — Прыходзьце, калі ласка, хутчэй ізноў!

Meine besten Grüsse an Ihre ganze Familie (мáйнэ бэ́стэн г'рю̈:сэ ан і:рэ г'áнцэ фаміліэ)! — Маé лепшыя прывітаньні ўсёй Вашай сям'і!

Danke, Sie sind sehr liebenswürdig (дáнгкэ, зі: зінт зэ:р лі:бэнсвю̈рдіхь). — Дзякуй, Вы дужа уважлівы.

Leben Sie wohl (лé:бэн зі: во:ль)! — Бывайце здаровы!

Adieu, lassen Sie sich's gut gehen (адьö:, лясэн зі: зіхьс г'у:т г'э́:эн)! — Бывайце, усяго лепшага!

Danke sehr, gleichfalls (дáнгкэ зэ:р, г'ляйхьфальс)! — Вельмі дзякую, таксама і Вам!

# КЛЯСЫЧНЫЯ ТВОРЫ СУСЬВЕТНАЕ ЛІТАРАТУРЫ

*Апрацоўка клясычных твораў сусьветнае літаратуры пачалася у Беларусі ужо у XIX веку. Нажаль, цяжкія абставіны жыцьця беларускае інтэлігенцыі і жахлівы прасьлед праяваў беларускае культуры нашымі ворагамі не дазволілі беларускім працаўнікам разгарнуць гэтую працу да належных памераў. Сяньня беларуская інтэлігенцыя мае зноў магчымасьць вярнуцца да тэмы клясычных твораў сусьветнае літаратуры і прадаўжаць апрацоўку іх, папулярызуючы гэтыя слаўныя творы сярод мільёнаае гушчы беларускага народу. Рэдакцыя «Новага Шляху» пастанавіла ажывіць традыцыю гэных беларускіх часапісаў у мінуўшчыне, якія так горача пасьвячаліся гэтай справе, і на сваіх бачынах будзе друкаваць апрацаваныя Антонам Калітою тэмы аб найвялікшых творах сусьветнае літаратуры.*

## ВІРГІЛІУС (70—18 Г. Г. ДА НАР. ХР.)

### Э Н Э І Д А

Зараз-жа па сканчэньні «Георгікаў» Віргіліус пачаў пісаць сваю апошнюю, даўно задуманую і абяцаную вялікую эпапэю. Шмат часу пасьвяціў ён падрыхтоўчаму вывучэньню грэцкага і рымскага эпасу, гістарычных твораў Катона і архэалёгічных Варона. Адзінаццаць гадоў пісаў ён «Энэіду», значна яе апрацаваў але не пасьпеў скончыць. Паміраючы, ён прасіў свайго прыяцеля Варыюса спаліць эпапэю і калі гэны не згадзіўся гэтак зрабіць, дык Віргіліус перадаў твор Варыюсу і Туццы з тым варункам, каб яны не выдавалі на сьвет нічога такога, чаго ён сам ня выдаў-бы. Імпэратар Аўгуст таксама загадаў выдаць эпапэю, «нічога не дадаючы, і выкінуўшы толькі лішняе». І «Энэіда» дайшла да нас з выразнымі сьлядамі недаконченасьці, недахопамі, супроцьнасьцямі, паўтарэньнямі, нават з няскончанымі вершамі. Нягледзячы на гэта, нацыянальная эпапэя прынята была рымлянамі з захопленьнем. Самі паэты яе праслаўлялі. Прапэрціус, яшчэ перад зьяўленьнем эпапэі у сьвеце, казаў, што яна вышэй чымся «Іліяда». Овідыюс назваў яе творам, слаўнейшага за каторы ня выдала лацінская зямля. Сэнэка ведаў яе цэлую напамяць. Квінтыліян параўняў Віргіліуса з Гомэрам. Вялікае мноства насьледаваньняў «Энэіды» служыць доказам яе надзвычайнае папулярнасьці. Мэта Віргіліуса — даць рымлянам нацыянальную эпапэю, напісаную на чэсьць траянца Энэя, як продка рымскага народу — была цалкам дасягнута.

#### ЗЬМЕСТ ЭПАПЭІ

«Энэіда» складаецца з 12 кнігаў і дзеліцца на дзьве часткі (па шэсьць у кажнай). У першай апісаныя падарожжы Энэя, у другой — ягоныя чыны у Італіі.

Першая кніга пачынаецца наступнымі вершамі:

> «Слаўлю вялікія чыны героя, ён першы ад берага Троі
> Прыбыў у Італію, ў краіну лятынаў, нядоляй прыгнаны.
> Доўга кідала яго па краінах і бурнаму мору
> Сіла багоў і воля злопомнай і злоснай Юноны.»

Пасьля гэтага уступу, паэта пачынае апавядаць гісторыю падарожжы траянаў, што уцяклі з Энэям з разбуранага места і сем год ужо падарожнічаюць па морах і шукаюць сабе прыпынку. Ледзь толькі траянскія вадаплавы адплылі ад берагоў Сыцыліі і уплылі у Тырэнскае мора, кіруючыся да Італіі, дык адразу Юнона што памятала зьнявагу яе Парысам, просіць караля вятроў Эоля выпусьціць на волю усе вятры і затапіць траянскія вадаплавы. Эоль спрычыніў страшэнную буру — і траянам пагражала зусім пэўная пагібель. Але Нэптун, зжаліўшыся над імі, супакойвае буру, што прыгнала падарожнікаў да берагоў Лібіі, дзе каралева Дыдона будавала новае вялікае места — Картагіну. Энэй прыплывае да берагу толькі з сямёма вадаплавамі і, зусім нявэдаючы аб долі іншых, ходзіць па беразе са сваім прыяцелям Ахатам. У гэтым часе на Алімпе, Вэнэра, шкадуючы вельмі бяздольнага сына, скардзіцца Юпітэру на Юнону, але бацька багоў цешыць яе, кажучы аб пабудове і будучай веліччы Рыму, дзе з шляхотнай траянскай крыві народзіцца Юлі Цэзар, «каралеўства якога можа утрымаць толькі акіян, а славу — неба». Вэнэра зьяўляецца да падарожнікаў і, паказваючы ім дарогу у Картагіну, паведамляе адначасна, што і іншыя іхныя вадаплавы не загінулі. Траяне, накрытыя воблакам, накінутым на іх багіняю, уваходзяць у места, спатыкаюцца там са сваймі таварышамі, якіх лічылі ужо загінуўшымі, адкрываюцца Дыдоне, і яна радасна прыймае іх. Вэнэра пасылае Амура пад постацяй Энэя — сына Асканія, каб ён узбудзіў у Дыдоне любоў да Энэя. Каралева запрашае траянаў на баль і просіць Энэя расказаць ёй аб вайне і ягоных прыгодах пасьля ад'езду з бацькаўшчыны. І Энэй апавядае, як грэкі, змарыўшыся даўгою і бяз ніякіх вынікаў аблогаю места, кінуліся на хітрасьць; як яны пабудавалі вялікага драўлянага каня, якога пакінулі перад Трояй у выглядзе падзякі Мінэрве за шчасьлівы паварот іх на бацькаўшчыну, а самі, схаваўшы у сярэдзіне каня узброеных ваякаў, адплылі ад берагоў Троі і схаваліся за выспаю Тэнэдосам. Надарма разумныя людзі радзілі не верыць гэтаму каню, надарма Лязкаон, баючыся «прыносячых дары данайцаў», ударам пікаю у бок каня цьвердзіў, што ён пусты у сярэдзіне, — траяне, паслухаўшы палоннага Сынона, увезьлі драўлянага каня у места. Тады грэкі уначы выйшлі з каня і, упусьціўшы сваіх таварышоў, дасталіся у Трою. Энэй апавядае далей, што ён, абуджаны праз цень Гектара, кінуўся змагацца з ворагам, але грэкі заўладалі палацам Прыяма — і ён быў змушаны уцякаць. Ён пасадзіў сабе на рэмя бацьку, выйшаў з места з сынам і жонкаю. Жонка згубілася у натоўпе. Энэй вярнуўся зноў у места, каб адшукаць яе, але перад ім зьяўляецца цень Крэузы і кажа, што згодна з воляю Алімпу, ёй ня суджана былоісьці за мужам. Тады Энэй вяртаецца да уцёкшых з места траянаў і адыходзіць з імі на гару Іду.

У трэйцяй кнізе апісваецца далейшы працяг апавяданьня Энэя. Выбудаваўшы каля гары Іды флёт, ён адплывае у Тракію і асноўвае там места Энэяду, але багі загадваюць яму пакінуць гэтую краіну, і траяне плывуць на выспу Дэлёс, каб даведацца ад Апалёна аб волі багоў. Апалён дае ім наступны адказ:

> «Сьмелыя ўнукі Дардана, вас прыйме чароўна краіна,
> Зямля найпладнейшая, тая, што вашых бацькоў калыхала.
> Траяне, маткі вы продкаў шукайце. Патомкі Энэя
> Там валадацімуць доўга і будуць загадываць сьвету
> Дзеці ягоныя, ўнукі й наступныя ўнукаў патомкі.»

Не зразумеўшы слоў Апалёнавага духаўніка, траяне скіраваліся на выспу Крыту. Там, вывезеныя Энэям з Троі пэнаты, у сьне абвяшчаюць яму, што не на Крыце суджана яму пасяліцца, але у Гэспэрыі, дзе жылі энотры і іхныя патомкі узялі ад імя свайго правадыра назоў італікаў. З гэтае краіны быў родам Дардан. Траяне паплылі у Італію, але бура занесла іх да струфадзкіх выспаў у Адрыятычным моры, дзе жывуць гарпіі «З тварам жаноцкім вялікія птушкі, кіпцюры на руках. З голаду твары іх бледны».

Падарожнікі пачынаюць з гэтымі дзікунамі змаганьне, пасьля адплываюць у Актыўскую затоку і на тым мейсцы, якое пасьля уславілася перамогаю Аўгуста, сьвяткуюць урачыстасьць на чэсьць Апалёна. У далейшай падарожжы спатыкаюцца яны з Гэленам, сынам Прыяма, уладаром Эпіру, які быў жанаты з Андрамахаю, украдзенаю з Троі Пірам, пасьля якога уладаў Гэлен. Тут наступае апісаньне узрушальнага спатканьня Энэя з удавою Гектара. Пасьля Траяне стрымаліся на берагох Сыцыліі і у падножжы Этны знайшлі грэцкага героя Ахэмэнідa, які схаваўся тут ад цыклёпаў. Падарожнікі забіраюць яго з сабою і затрымоўваюцца пасьля у Дрэпане, дзе хаваюць памёршага Анхіза. Адсюль бура загнала іх ужо у межы уладаньня Дыдоны.

Чацьвёртая кніга апісвае міласьць Дыдоны да Энэя, ад'езд яго з Картагіны, роспач і сьмерць Дыдоны. Гэтая кніга справядліва уважаецца за найлепшую і найпрыгажэйшую у цэлай паэме, дзеля гэтага возьмем колькі радкоў з яе у беларускім перакладзе:

> «Даўно каралева цяжкаю міласьцяй зранена
> Носіць у сэрцы свой боль і полымем скрытым згарае,
> Толькі і думае стала аб славе траяна Энэя,
> Аб славе народу Энэя, а ўсенькі прыгоды
> І вобраз Энэя — глыбока ў душы каралевы залеглі.
> Думкі хвалююць яе, ня мае ні сну, ні спакою.
> Вось ужо месяц апошні прамень свой кідае на зямлю,
> Аўрора з нябёсаў прагнала вільготныя цені,
> Дыдона сястру сваю кліча і ціханька з болем пытае:
> «Ганна, сястра, чаму, скажы, спаць не магу я?»

На пачатку пятае кнігі траяне, аддаляючыся ад берагоў Афрыкі, бачаць вод-

бліск полымя у Картагіне — гэта было вогнішча Дыдоны. Новая бура адкідáе іх зноў да берагоў Сыцыліі, на тое мейсца, дзе перад годам Энэй пахаваў Анхіза. Спамінуўшы урачыста нябошчыка, арганізуюцца гульні. Спачатку адбываецца перагонка чатырох вадаплаваў, пасьля бег, кулачная бойка і страляньне з лука, на заканчэньне — дзіцячыя гульні, званыя траянскімі, выабражалі змаганьне коньніцы. У часе гульняў траянкі, падгавораныя багіняю Ізыдаю, паляць вадаплавы, каб змусіць сваіх мужоў астацца на Сыцыліі. Энэй моліцца да Юпітэра, каб ён пагасіў пажар, і бог пасылае дождж. Згарэлі толькі чатыры вадаплавы. Энэю зьяўляецца у сьне цень ягонага бацькі, Анхіза, і загадвае яму плыць у Італію і толькі пакінуць тут тых, што не жадаюць ехаць з імі. Апрача таго, ён просіць сына зыйсьці да яго на Элізэйскія палі, каб даведацца аб будучай долі свайго роду. Траяне пускаюцца у дарогу пад апекаю Нэптуна. Бог сну, каб перашкодзіць Энэю у дарозе, усыпіўшы кіруючага вадаплаў Палінура, скідае яго у ваду. Тады Энэй сам кіруе вадаплаў.

У шостай кнізе траяне прыплываюць да берагу Кумы і ідуць з Энэям, што злажыў ахвяру Апалёну, у яскіню Сыбіліі. Там вялікая вэсталька (жрыца) прарочыць яму новыя небясьпекі у дарозе. Пахаваўшы аднаго з таварышоў, Энэй атрымоўвае дазвол ад Сыбіліі убачыцца з Анхізам і накіроўваецца з ёю у пекла. Праз рэчку Стыкс пераяжджаюць яны з Палінурам у лодцы Харона. Цэрбэра-Сыбіля пачаставала хлебам з мёдам і сонным зельлем. Апускаючыся далей у пекла, Энэй чуе стогны дзяцей, бачыць душы самагубцаў і нявінна забітых, бачыць шырокія палі, дзе блукаюць ахвяры няшчаснае міласьці, спатыкае і Дыдону, якая панура выслухаўшы ягоную выгаворку (апраўданьне), уцякае у Сыхэю. Далей Энэй бачыць поле, дзе прабываюць душы герояў, і спатыкае шмат траянаў, якія загінулі у змаганьні за бацькаўшчыну, пасьля ён чуе стогны, якія выходзяць з прагаліны злачынцаў, у канцы ён ідзе на мейсца прабываньня шчасьлівых, у каралеўства радасьці, у зяленіву шчасьлівых лугоў і дуброваў. Тут Энэй знаходзіць бацьку свайго, Анхіз вядзе яго у даліну, дзе лётаюць душы людзей, прызначаных жыць, будучых зямельных жыхароў. Анхіз паказвае яму усіх ягоных патомкаў, пералічае усе войны і бітвы, якія пагражалі ягонаму сыну, вучыць яго, як бараніцца ад няшчасьцяў і выпускае яго зноў на сьвет праз браму з сланёвае косьці. Энэй накіроўваецца адразу у Ляцыум.

Сёмая кніга пачынаецца хаўтурамі Гаэты, мамкі Энэя, імём каторае ён называе прыстань, дзе насыпаў над ёю магілу. Пасьля ён ад'яжджае у вапошнюю марскую падарожжу і, абмінуўшы уладаньні чараўніцы Цырцэі, прыплывае да утоку Тыбра. З гэтага мейсца пачынаецца другая частка паэмы, названая лацінскаю Іліядаю. Гэтая частка далёка слабейшая і нуднейшая чымся першая, хоць Віргіліус уважае яе за найважнейшую частку свайго твору і зьвяртаецца да музы Эрато, і просіць памагчы яму расказаць, якія каралі былі у старадаўнім Ляцыуме, якія вялікія дзеяньні яны выканалі. Кароль Лятын з гонарам прыймае Энэя, згаджаецца выдзяліць яму зямлю і запрапанаваў сваю дачку выдаць замуж за Энэя. Але Юнона пасылае фурыю Алекто, каб яна пасварыла лятынянаў з траянамі. Фурыя намаўляе Амату, жонку Лятына, супроць замуства іхнай дачкі Лявініі з чужынцам і просіць выдаць яе замуж за Турна, караля рутулаў. Турн узбурвае супроць траянаў, апрача лятынаў, іхных суседзяў: вольскаў, этрускаў, сабінянаў і экваў. Гэтая кніжка канчаецца пералічэньнем правадыроў усіх гэтых плямёнаў.

У восьмай кнізе Энэю зьяўляецца у сьне бог гэтых краінаў Тыбэрын і радзіць падпісаць прыяцельскую умову з аркадыянінам Эвандрам, валадаром места Палянтэуму. Энэй накіроўваецца у места, на мейсцы якога узьнік Рым. Эвандр прыймае яго папрыяцельску, апавядае гісторыю гэтых мясьцінаў, паказвае розныя пáмяткі і дае яму на помач 400 коньнікаў пад правадырствам свайго сына Палянта. У гэтым-жа часе этрускае места Агіля, выгнаўшы свайго караля Мэзэнтыя, прыяцеля Турна, выбірае Энэя за свайго правадыра. Вэнэра дорыць свайму сыну выкаваную Вульканам зброю і шчыт, на каторым выпісаны будучыя вялікія чыны рымлянаў, асабліва Аўгуста, якога пясьняр уплятае усюды, дзе можна і дзе нават няможна. На апісаньне вялікіх чынаў Аўгуста пясьняр тут пасьвяціў пяцьдзясят вершаў.

У дзявятай кнізе Турн нападае на войска Энэя. Траяне не адважваюцца у няпрысутнасьці свайго правадыра пачаць бойку, і ворагі падпальваюць іхныя вадаплавы. Але, дзякуючы просьбе Цыбелі, Юпітэр ператварае гэтыя вадаплавы у марскія німфы. Пасьля гэтакага дзіўнага ператварэньня траяне шукаюць спосабу паведаміць Энэя аб нападзе. Прабрацца праз няпрыяцельскі стан узяліся два прыяцелі Нізус і Эўрыаль, але яны не змаглі гэтага зрабіць і пасьля адважнага змаганьня загінулі. Матка Эўрыаля, даведаўшыся аб няшчаснай сьмерці сына, страшэнна плача і жаліцца. Пасьля страшэннай бойкі, Турн сам нападае на траянаў, але моцна пабіты, кідаецца у Тыбр і, пераплыўшы яго, ратуецца.

У дзясятай кнізе Юпітэр склікае багоў на Алімп і, бачачы, што адны з іх памагаюць лятынянам, а іншыя — траянам, рáдзіць ім пагадзіцца, кажучы, што яшчэ будзе час, калі яны змогуць спагнаць свой гнеў, а гэта будзе тады, калі узьнікне вайна паміж Рымам і Картагінаю. Вэнэра наракáе, што на траянаў ужо і так шмат няшчасьцяў і гора пáдала. Юнона не згаджаецца з гэтым. Юпітэр абвяшчае, што гэтую справу рассудзіць сама доля у будучыні. У міжчасе на зямлі на помач абкружаным траянам Энэй прывозіць на 30-цёх вадаплавах прыяцельскае войска этрускаў і высаджваецца на бераг на вачох ворага, які нападае на прыбыўшых. Турн у бойцы забівае Палянта, але пры гэтым сам пападае у такую вялікую небясьпеку, што яго ад зусім пэўнай сьмерці ратуе толькі Юнона, якая яго адводзіць з бойкі. Энэй нападае з пікаю на Мэзэнцыя, каторы таксама пакідáе поле бітвы, але даведаўшыся, што Энэй забіў ягонага сына Ляўжа, вяртаецца і кідаецца у бойку, але зараз-жа пáдае ад рукі Энэя, просячы толькі сабе аднэй магілы з сынам.

У адзінаццатай кнізе войскі, што змагаюцца, падпісваюць згоду на 12 дзён, каб пахаваць забітых. Да лятынянаў вяртаецца іхнае пасольства, пасланае да Дзіомэда, героя Траянскае вайны, што жыў у Апуліі. Дзіомэд, адмовіўшыся ім дапамагчы, парáдзіў падпісаць з Энэям згоду, але Турн ня хоча нават слухаць аб гэтым. Тады Энэй нападае на сталіцу лятынянаў, разьдзяліўшы сваё войска на два аддзелы. Супроць аднаго з гэтых аддзелаў Турн пасылае гераіню вольскаў Камілю, супроць другога, якім кіраваў Энэй, — пайшоў сам. Арукс забіў Камілю, а яго самога за гэта на загад Дыяны, апякункі гераіні, забіла німфа Опіс. Разьбітыя рутулы уцякаюць, Турн бяжыць ім памагáць. Ноч разлучае войных.

У дванаццатай кнізе Турн згаджаецца закончыць вайну паядынкам з Энэям, хоць Лятын і нават Амата радзяць яму упакорыцца. Юнона, незадаволеная тым, што няшчасьці траянаў скончацца, намаўляе німфу Ютурну, сястру Турна, нагаварыць рутулаў, каб яны не дапускалі да паядынку. Ютурна закідае яму маладушнасьць і яны нападаюць на траянаў. Абязброены Энэй быў ранены стралою, але Вэнэра зараз-жа вылячыла яго, і Энэй кідаецца у бойку, надарма шукаючы Турна. Ютурна, прыняўшы постаць Мэтыска, Турнавага хурмана, ухіляецца ад спатканьня з Энэем. Тады ён нападае на места. Амата забівае сябе з розпачы. У канцы Энэй знаходзіць Турна і раніць яго. Турн паддаецца пераможніку і адступае Энэю сваю улюбніцу, але Энэй, убачыўшы на сьпіне Турна перавязку забітага ім Палянта, у злосьці забівае свайго ворага. Гэтым кончыцца паэма.

Значаньне Віргіліуса і ягонае «Энэіды» было вельмі вялікае ня толькі у Рыме, але і у цэлым культурным сьвеце, дзе разьвіваўся клясыцызм, асабліва там, дзе пашана да старадаўніх пісьменьнікаў і старадаўніх формаў паэзіі дайшла да абсурду, гэта значыць да перавышаньня іх перад роднаю моваю і сучасным літаратурным патрабаваньнем і творам. «Энэіда» напісана на узор «Іліяды» і «Одысэі». Віргіліус напісаў сваю паэму на жаданьне імпэратара Аўгуста, дзеля гэтага так выразна бачны ёсьць тыя шматлікія выхваляньні Аўгуста. «Энэіда» славіцца сваімі прыгожымі эпізодамі, парушальнымі асаблівасьцямі, майстэрскімі вобразамі і высакапаэтычнымі апісаньнямі. Гэты твор Віргіліуса займае адно з першых мейсцаў у сусьветнай літаратуры.

*Апрацаваў Антон Каліта.*

## *БЫЛА ВОСЕНЬ*

*Уладзімер Дудзіцкі*

Бяз прычын ня бывае гора,
Ані суму, ні сьлёз пякучых.
Прыгадаў я сягоньня мора
І знаёмага берагу кручы.

Была восень. Вятры шумелі.
Хвалі пену вады пляскалі.
Востракрылыя чайкі зь мелі
Узьляталі на грані скалаў.

І здалося — прызнацца шчыра —
Мора любым такім і блізкім,
І нібыта зь сівога віру
Твар калолі салёныя пыркі.

Але не... Мне у сьне здалося:
Я ляжаў на вяршыні кручы.
Скалануўся — душа галосіць,
Выпіваючы боль разлучын...

Дома маці адну пакінуў
І яе, радасьць сэрца, — Асю...
Вецер кідаў у вочы кпіны:
Ня журыся — даўно зраклася.

Вось таму і згадаў я гора,
Кроплі буйныя сьлёз пякучых,
Цьмянасінія хвалі мора
І знаёмага берагу кручы.




# Пад небам Случчыны каханай

I.

Пад небам Случчыны каханай,
Дзе зоры сыплюцца ў расу,
Пазнаў я шлях цярновы рана
І краю роднага красу.
Там пад алешынай рагастай
Я пугай ляскаў да зары...
І мудры дзед там вельмі часта
Мяне вучыў, мне гаварыў:
«Жыцьця шляхі усе крутыя,
Да шчасьця шлях вядзе адзін.
Мінай прывабы залатыя,
Насустрач невядзі ідзі.
Спаткаеш ветры-ліхадзеі —
Падстаў ім грудзі — б'юць няхай,
Арла крылатага надзеі
Лаві, рукамі не махай.
Каменьні гострымі нажамі
Парэжуць ногі да крыві...
Ідзі, за сьценьню-міражамі
Асягнеш радасьці узьвіў.
Калі трухлявыя мыліцы
Працягне кат з крывавых рук,
Скажы яму: «Чым падаць ніцма
Я сьмерцяй воіна памру...»
Я слухаў, не, каўтаў я словы
Навукі дзеда-мудраца,
І сьвет нявеламы і новы
Раіўся ў мроях без канца.
Быў ён прывабны і чароўны,
Зырэў у цьвецені шыпшын,
І, нібы гожыя князёўны,
Ўсплывалі постаці дзяўчын...
Яны глядзелі на загоны,
Дзе сярод мора каласкоў
Зырчэй расквечанай кароны
Зіхцелі кветкі васількоў...

II.

Пялёсткаў белыя завеі
Шумелі ў зелені садоў...
І, нібы зрадлівыя феі,
Скакалі дні маіх гадоў.
І ў гэтых скоках нечаканых
Я сэрца больлю гартаваў...
Жыцьцём упоены, як п'яны,
Ішоў я, падаў і ўставаў.
І хоць-бы раз далёкі, блізкі
Таварыш руку працягнуў.
Адзін, схіліўшы толаў нізка,
Праводзіў я жыцьця вясну...
Дранцьвелі рукі ад зьнямогі,
І смаглі губы без вады..
Сьмяяўся старац ля дарогі,
Як я — бляды і малады.
О, гэты старац...
Сьмех пякучым
Дакорам сэрца праціnaў.
І я ішоў па скалах, кручах
Туды, дзе сонца, дзе вясна...

III.

Ў гаёх, лясох цьвілі пралескі,
Жаўцелі вербы, бэз сінеў...
Зялёны гай і пералескі
Плылі кудысь, як ува сьне...
Пішчэлі чайкі над ракою,
Сквілелі ў небе бакасы,
І вецер кволаю рукою
Маё кудлачыў валасы...
А я ішоў адзін па полі,
Ўпіваўся водырам зямлі.
Каханьня солад мімаволі
Мне ў сэрца чулае хтось ліў:
«Не забуду я, Алеся,
Час спатканьня над ракой...
Абнімаў нас ціхалесься
Вецер цёплаю рукой...
Дзесь зязюля кукавала
Пад зялёнаю вярбой...
Укарала ты, што мала
Сустракаўся я з табой...
Патухалі ў небе зоры,
Як каралі тваіх сьлёз...
На сьвітаньні боль-укоры
Я навек з сабой панёс...»

Другая сумам закранала
Акорды ў сэрцы маладым,
Як у няволі паміралі
Ткачыхі слуцкія ў гады,
Калі агнямі і мячамі
Варшавы «гжэчныя» сыны
Тварылі суд над крывічамі
Без усялякае віны...
«Ад родных ніў, ад роднай хаты
У панскі двор дзеля красы
Яны бяздольныя узяты
Ткаць залатыя паясы...»
І мне рабілася балюча
За родных сёстраў і братоў,
І помста ляваю кіпучай
Бурліла ў сэрцы. Быў гатоў
Ісьці на сьмерць я і пакуты,
Каб не памерлі крывічы,
Каб не насілі вечна путы,
Чужыя гострачы мячы.

IV.

А даль ляжала няжывою,
Дрыжэлі ў сполаху кусты,
І над маёю галавою
У небе коршун, як застыў...
Паўзьлі крывавыя туманы,
Ваўкі дзесь вылі ля ракі.
Стагналі, войкалі курганы,
Дзе Гаўрыловіча палкі
Пад сьцягам бел-чырвона-белым,
Рукамі вышытым дзяўчын,
Хадзілі ў бой адважна, сьмела
За волю Случчыны, за чын...
І ўжо ў руках шпэговай зрады,
Каб чула родная зямля,
Крывіч бясстрашны Лістападаў
Ў апошнім слове прамаўляў:
«Няхай за край абрабаваны,
Што імя мае Беларусь,
Сканаю я ў крывавых ранах
Ад вашых чорных катніх рук,
Ня буду плакаць і прасіцца,
Крывіцкі род ня зраджу век,
Бо покуль сэрца будзе біцца
Хачу я звацца — чалавек».

V.

Хоць я тады яшчэ ня ведаў,
За што крывавяць мой прасьцяг,
Ды словы-клічы Лістапада
Мяне вялі кудысь, як сьцяг.
І я ня йшоў, а лез на скалы
Сьлядамі сьвежае крыві,
А прыпарнаскія шакалы
Крамсалі дум маіх узьвіў.
А ў гэтых думах, гэтых мроях
Хацеў я там хоць міг пабыць,
Дзе Чарадзеявы героі
Ў агні згаралі барацьбы...
Дык дзе там: «Тэма архаічна,
Вы ў правы хіліцеся ўхіл...
Сьляпы вы: сяньня гераічней», —
Пісаў якісь мне Самуіл...
А я, «сьляпы», глядзеў, як маці
Сьлязамі змочвала палі:
Хацеў крычаць, хацеў я плакаць,
Ня дыфірамбы ім піліць.

VI.

Парваў я струны свайго сэрца,
Закінуў ліру ў забыцьцё,
Бо «родны бацька» горкім перцам
Перасыпаў маё жыцьцё;
Браты і сёстры скрыгіталі
Зубамі ў роспачы, нудзе.
І ня было ў жыцьці праталін,
На васкрашэньне на'т надзей.
Ў Сібір халоднымі шляхамі
Ішлі з-пад Слуцку песьняры.
І там пад тоўстымі сьнягамі
Дранцьвеў бунтарскі іх парыў.
А тут пад небам родным, сінім,
Вісела карканьне варон...
Маўчаў крывіцкі Паганіні,
Маўчаў крывіцкі і Байрон.
І толькі ціха хтось прарочыў:
«Ой будзе суд, страшэнны суд.
Мы глянем сьмела тады ў вочы
І прайдзісьветаў, і прыблуд...

VII.

Гайсалі ветры-буйнавеі
Па вёсках сумных ля Случы...
Хадзілі каты і зладзеі
Па хатах сонных уначы...
Хадзілі, чорнымі рукамі
Зрывалі посьцілкі з дзяўчын,
Ірвалі цела іх клыкамі,
Не за праступства, не за чын...
О, не! Віною была маці,
Што нарадзіла іх на сьвет,
Што паясы умела ткаці,
Свой край любіць вучыў і дзед,
Які жыцьця стаптаў прасторы.

— — — — — — —

О, васільковыя палі!
Ой, колькі вы пазналі гора!...
Ой, хоць-бы раз вы расьцьвілі
Праўдзівым цьветам буйналістым,
Каб там дзяўчатам маладым
Сьмяяўся месяц серабрысты...
Каб іх найлепшыя гады
Прайшлі, як сон, як казка-цуда,
Сярод каханьня і уцех,
Каб ноччу цёмнаю Іюда
Ня краў іх звонкі, чысты сьмех...

VIII.

Гатоў штодзень я быць данарам,
Па кроплі кроў аддаць сваю
За васільковыя прасторы,
Дзе людзі маладасьць маю
Тапталі бруднымі нагамі,
Дзе жыў мой бацька, любы дзед,
Дзе над лугамі-мурагамі
Іскрыцца сонца агняцьвет...
Хачу я крыкнуць родным хатам,
Дзе льлецца Случ, мая рака:
Мілей за тысячы дукатаў
Цьвяток мне сіні васілька
З прастораў Случчыны каханай,
Дзе зоры сыплюцца ў расу,
Дзе я пазнаў жыцьцё так рана
І краю роднага красу.

Менск, студзень, 1944 г.




Яшчэ і дагэтуль некаторая частка старэйшага пакаленьня беларускага народу верыць, што некаторымі сьвячонымі прадметамі чалавеку можна забясьпечыцца ад розных нешчасьлівых выпадкаў і нават можна палепшыць свой дабрабыт. Да гэткіх прадметаў, прыкладам, у вабыходку гэтае часткі беларускага сялянства належалі: ёрданская вада, сьвячоны мел, соль, сьвячоныя зёлкі ды іншыя. Найважнейшым-жа паміж іх была грамнічная сьвечка, ці, як агулам кажуць, «грамніца». Яна высьвячалася у дзень сьвята Грамніцаў - Срэценьня (2—15 лютага).

Без пераўвялічэньня можна сказаць, што з грамнічнаю сьвечкаю беларускі селянін даўней пачынаў, праходзіў і канчаў сваё зямное жыцьцё, а у жыцьці яна яму патрэбная была шмат-шмат разоў.

Вось мучылася парадзіха — і запальвалі «грамніцу» для аблягчэньня родаў. Нараджалася дзіця, расло... і яму час-ад-часу «грамніцай» крыж-накрыж асмальвалі валасы, каб не баялася пярэпалахаў... Станавілася дзіця дарослым чалавекам, дзяцюком ці дзяўчынаю. Прыходзіла пара́ дзяцюку жаніцца ці дзяўчыне выходзіць замуж... і бацькі запаленаю грамнічнаю сьвечкаю багаслаўлялі іх да шлюбу. Жыве чалавек, працуе, працуе і цяжка занядужае... Зноў запальвалі «грамніцу» і падкурвалі хворага. Нарэшце прыходзіць сьмерць, чалавек кана́е... і яму ужо апошні раз у аслабленыя рукі давалі запаленую «грамніцу», верачы, што ейны агонь ад душы адганяе нячыстую сілу.

Земляроб-селянін часамі ужываў грамніцу як магічны ці знахарскі сродак для забясьпечаньня памыснасьці у працы, для абяшкоджаньня розных сілаў і зьявішчаў, няспрыяльных для ягонай гаспадркі.

З грамнічнаю сьвечкаю набожны земляроб пачынаў сяўбу. Калі вёз у гумно першы сноп ураджаю, зноў на разасланы вялікадны абрус клаў «грамніцу» і тады праз яго вёз воз. З грамнічнаю сьвечкаю селянін узімку пераносіў у цёплае памешканьне нованароджаную жывёлу. З грамнічнаю сьвечкаю ён увесну першы раз выганяў сваю скацінку у поле. У ноч на Купалу грамнічную сьвечку селянін падвешваў да варотаў кароўніка, каб ведзьмы не адбіралі малака ад кароў.

Ды ці-ж толькі гэта?... Улетку насуваецца цёмная хмара... Смаляць маланкі, б'юць пяруны — ідзе навальніца. Робіцца жудасна усяму жывому. А наш селянін пры запаленай у гэтым часе «грамніцы» нічога не баіцца, бо верыць, што яго і ягонае дабро яна бароніць ад маланкаў і пяруноў. Пры высьвячэньні «грамніцы» сяляне варажылі і прыкмячалі: «калі на Срэценьне у царкве сьвечкі пырскаюць, дык улетку будуць вялікія грымоты».

«Грамніца» прыгатаўляецца з чыстага воску наконадні сьвята Грамніцаў.Назаўтра сьвецяць яе у сьвятыні, а потым праз цэлы год перахоўваюць пад абразамі ці у іншым пашанным мейсцы.

Вярнуўшыся з царквы ці з касьцёлу, гаспадар асабіста запальваў грамнічную сьвечку і крыж-накрыж падпальваў валасы на галаве у кожнага сем'яніна, у кожнай жывёліны, а таксама касякі вакон і дзьвярэй кожнага гаспадарскага будынку, каб нікому ня шкодзілі буры і пяруны будучага лета, а у людзей каб не балелі галовы.

*У. Паўлюкоўскі.*

*Вольга Тапоя*

## *СУСТРЭЧА*

*Дні міналі адзін за адным*
*І у вечнасьці ніклі бязь сьледу...*
*Я тамілася думкай аб тым,*
*Што ня йдзеш... Што ці прыйдзеш — ня ведаю...*
*Ты ня йшоў. Я чакала — ня йшоў...*
*Кажны вечар сьлязьмі я праводзіла.*
*Тыдні йшлі мне марудней гадоў,*
*І здавалась: чакаць ужо годзе!*
*Ня убачыць тваіх мне вачэй,*
*Ў іх праменьні мне болей ня грэцца!..*

*І у цішы бяссонных начэй*
*Так балела самотнае сэрца...*
*Спадзявацца я ўжо не магу,*
*Ты са мной ўжо ня будзеш ніколі.*
*Толькі ў вершы я выльлю тугу,*
*Нявычэрпнасьць нясьцерпнага болю.*
*Так і беглі пакутныя дні,*
*Гасла вера, што будзе іначай,*
*І надзеі ўжо згасьлі агні,*
*Што цябе хоць разок я убачу...*
*Але неяк праз горад ішла,*
*Сумнай вуліцай, ўшчэнт зруйнаванай.*
*Толькі вочы ўгару узьняла —*
*Раптам... бачу цябе, мой каханы!*
*Я гатова была заскакаць,*
*Абхапіць тваю шыю рукамі,*
*Але мусіла ціха стаяць*
*І цябе толькі лашчыць вачамі.*
*Борзды восеньскі вецер гайсаў*
*Між абсмаленых чорных руінаў...*
*І мой позірк цябе запытаў:*
*«Праўда, любы?... Мяне ты пакінуў?...»*

*Але радасным быў твой адказ:*
*На пагляд адказаў ты паглядам.*
*Я ўжо знала: ты прыйдзеш ня раз,*
*Я ўжо знала: са мной быць ты рады!...*

*На мяне ты зь пяшчотай глядзеў,*
*Быў рукі тваёй поціск гарачы...*
*Сумна вецер ў руінах гудзеў...*
*Што за шчасьце было цябе бачыць!...*

*Разьвіталася хутка з табой,*
*Але ў сэрцы жыла ўжо надзея:*
*Будзеш ты паранейшаму мой...*
*О, як ма́рыла скрозь аб табе я!...*

*Менск.*

# НАРОДНАЯ МУДРАСЬЦЬ

## БЕЛАРУСКІЯ ЗАГАДКІ

*Як ляжыць — ніжэй ката́, а як станець — вышэй каня (Дуга).*
*Пры боку калітá — поўна злота наліта (Печ).*
*Як прысыплеш, дык паме́нее, — як адсыплеш, дык паболее (Яма).*
*Крыж на крыжы, сёлькі-толькі, хто ведае колькі (Клубок).*
*У лесе сьцята, у каморы ўзята, ляжыць-маўчыць, возьмеш на рукі — плача (Скрыпка).*
*У лесе радзілася, на вяселле згадзілася (Скрыпка).*
*У ліпазым кусьце мядзьведзь равець (Цымбалы).*
*Еду, як па небу, пад сабою сонца бачу (У чаўне).*
*Ішоў чалавек дарогаю, ажно ўдвох сена грабуць. Калі брат зь сястрой — сьпешна вам, а мужык з жаной — сьмешкі ды жарты. — А ня брат зь сястрой, ня мужык з жаной, — мая матка яе матцы сьвякроўка была (Бацька з дачкою).*
*Бела поле, чорна насеньне, — хто ня ўмее, той не пасее (Кніга).*
*Хто гаворыць без языка? (Пісьмо).*
*Ідзе-ідзе, а з месца ня сойдзе (Гадзіньнік).*

## БЕЛАРУСКІЯ ПРЫКАЗКІ

*Работа корміць, і поіць.*
*Работа не бясчэсьціць чалавека, а крэпіць і цешыць.*
*Шчасьце пераходзячы жыве.*
*Чалавек ня вол, у валнэй скуры не старэе.*
*Чалавек, пакуль у горне не пабудзе, ня знае дабра.*
*Хто лепшага ня мае, таму і гэта добра.*
*Хто новага ня бачыў, і стараму рад.*
*Бог — вялік чалавек.*
*Бог багат: больш ма́е, чым раздаў.*
*Бог дае на усіх долю.*
*Больш у Бога дзён, як у пана каўбас.*
*Бог ведае, хто як абедае.*
*Бог ня гуляе, а дабро перамярае: у ваднога возьме, а другому дасьць.*
*Бог ня гуляе, многа палатна мае, ды багатым торбы прыгатаўляе.*
*Бог не цяля, бачыць круцяля.*
*Божая ласка дасьць нам хлеба і мяска.*
*Юрай пасе кароў, а Мікола коней.*
*Ільля — слаўная жняя.*
*Сьвяты пакроў, благаславі на кроў.*
*Юрай сказаў: жыта ураджу, а Мікола: пачакай, пагляджу.*
*Юрай нап'ецца і Мікола не астанецца. Ды й Іван піў, каб хто купіў.*
*Два Юр'і да абодвы дурні: адзін галодны, а другі халодны.*
*Чорт чорта пазнаў, ды на піва пазваў.*
*Чорт дуду надзьме, калі дух ідзе.*
*Чорт без балота, а балота бяз чорта ня бывае.*
*Чорт дзірку знаходзіць.*
*Чым чорт ня шуціць, пакуль Бог сьпіць.*
*Ня проціў ночы гаворачы.*
*Дай Божа у добры час сказаць, а у ліхі памаўчаць.*
*Ня у гэтай хаце гаворачы.*
*Ня пры нас казана.*
*Соль табе у вочы.*
*Хоча душа у рай, ды грахі ня пускаюць.*
*Грэх у мех, а спасеньне наверх.*

# ГУМАР




← Ішоў дзяк і з дзячыхай —
Знайшлі торбу і з грачыхай.
Ты — дзяк, я — дзячыха,
Табе — торба, мне — грачыха

Ішоў пан із паненкай, →
Знайшлі вілку, із талеркай.
Ты — пан, я — паненка;
Табе — вілка, мне талерка.






Рабінанька каля дубу
Зацьвіла цьвяточкамі —
Дзяўчыначка свайго друга
Абвіла ручонкамі.



← Як была я малада,
Дык была я рэзва:
Цераз тын у манастыр
К мілку пералезла.



Не глядзіце на мяне, →
Што я невялічка:
Прычашуся, прыбяруся —
Буду маладзічка.



Я на рэчцы бяльлё мыла,
На йзгародзі вешала.
Я мілога правадзіла —
Яго слоўкам цешыла.

